**Выдавец:**
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.

**Выдаецца са снежня 1994 года**

**№ 4 (772) 22 студзеня 2015 года.**
**Кошт свабодны.**

Штотыднёвая газета
vglybokaye@tut.by

# Вольнае Глыбокае





## Вадохрышча ў Глыбокім



## Докшыцкі раён

# Каб радасць жыла ў сэрцах

■ Чэслаў Якубовіч.

**На працягу амаль месяца да 11 студзеня па ўсёй краіне праводзілася навагодняя дабрачынная акцыя "Нашы дзеці".**

У ходзе шматлікіх мерапрыемстваў днямі цэлая дэлегацыя з удзелам паважаных гасцей наведала і Бягомльскую дапаможную школу-інтэрнат, што ў Докшыцкім раёне. З асаблівым нецярпеннем 120 яе навучэнцаў чакалі даўняга знаёмага старшыню Палаты прадстаўнікаў Нацыянальнага сходу Беларусі Уладзіміра Андрэйчанку, які лічыць сваім абавязкам пабачыцца з хлопчыкамі і дзяўчынкамі, якія апынуліся ў цяжкай жыццёвай сітуацыі. Кожнаму з іх зноў спікер парламента прывёз не толькі салодкія падарункі, а таксама перадаў плазменны тэлевізар і патрэбны спартыўны інвентар. Рады былі дзеткі і мясцоваму кіраўніцтву ў асобе главы раёна Алега Пінчука, які падараваў ад райвыканкама інтэрнату дыван і пыласос. Навучэнцы цудоўна ўпрыгожылі свой другі родны дом, парадавалі гасцей падрыхтаванай музычнай казкай "Навагоднія прыгоды Калабка". На памяць аб гэтай сустрэчы дзеці перадалі ім у знак падзякі спецыяльныя сувеніры, зробленыя сваімі рукамі, і сфатаграфаваліся разам у карнавальных касцюмах. Падчас гэтай памятнай сустрэчы ў школе-інтэрнаце панавала асаблівая святочная і душэўная атмасфера. У актавай зале кіраўнік парламента У. Андрэйчанка павіншаваў прысутных дзяцей і педагогаў са святам і выказаў упэўненасць, што дарослыя зробяць усё, каб юныя сэрцы саграваліся тут любоўю і спагадай, а выхаванцы не страцілі веру ў дабро і справядлівасць. Дарэчы, па краіне апошнім часам істотна знізілася колькасць розных сіроцкіх устаноў і на 60 % зменшылася колькасць дарослых, якія пазбавілі бацькоўскіх правоў.

## Браслаўскі раён

# Адходы – у даходы

■ Станіслаў Раманчук.

**У адрозненне ад іншых краін кантынента, у Беларусі пакуль яшчэ нязначная колькасць другасных матэрыяльных рэсурсаў ідзе на прамысловую перапрацоўку.**

Праўда, на ўзроўні ўрада прымаюцца значныя намаганні, каб пераламіць сітуацыю і свядомасць нацыі на карысць экалогіі. Адзін з прыгажэйшых у Прыдзвінні і самы азёрны Браслаўскі раён стаў першым у рэспубліцы, дзе пачаў ажыццяўляцца пілотны праект па зборы прамысловых адходаў па еўрапейскіх стандартах. Частку сродкаў на яго ажыццяўленне выдзеліў Еўрасаюз, а асноўным нарыхтоўшчыкам другаснай сыравіны Браслаўскаму райкамунгасу і мясцоваму райпо закупілі спецыяльныя кантэйнеры для аджыўшай свае бытавой тэхнікі. Дагэтуль і ў азёрным краі старыя тэлевізары, халадзільнікі, іншыя рэчы і прыборы людзі проста выкідвалі на сметнікі разам з іншымі бытавымі адыходамі, шклотарай. Цяпер непатрэбную тэхніку прыраўнялі да металалому і прымаюць па цане больш 700 рублёў за кілаграм. Камунальшчыкі могуць прыехаць у населены пункт па заяўках вяскоўцаў, а далей утылізаваць гэтыя адыходы і атрымоўваць з іх другасную сыравіну ( у ЕС атрымоўваюць такім чынам да 50 % рэсурсаў) будзе сталічная фірма. Такім чынам на Браслаўшчыне арганізавалі збор з дапамогай спецыяльных кантэйнераў і адпрацаваных электрычных батарэек і лямпак. Актыўна ў раёне вядзецца праца па набыцці кантэйнераў для раздзельнага збору смецця, яе важнасць добра ўсведамляюць дзеці. Невыпадкова летась вучні Межанскай, Канстанцінскай, Каз'янскай, Опсаўскай школ, СШ №1 і №2 райцэнтра, раённай гімназіі былі ў ліку пераможцаў абласнога этапа рэспубліканскіх акцый "Спажыванне і другаснае выкарыстанне матэрыялаў", "Здадзім макулатуру – захаваем дрэва".

## Пастаўскі раён

# Зноў ажыла вёска

■ Кастусь Александровіч

**Нягледзячы на ўсе намаганні дзяржавы, беларуская глыбінка імкліва вымірае, а з ёй знікае і цэлы пласт адметнай нацыянальнай культуры.**

Не пазбегнуў гэтых балючых працэсаў і Пастаўскі раён, дзе чвэрць стагоддзя назад пражывала каля 54 тысяч чалавек, дзейнічала 30 калгасаў і саўгасаў. Цяпер тут гаспадарак засталося толькі 14, прыйшлося закрыць 27 школ, бо колькасць насельніцтва зменшылася на 17 тысяч жыхароў. Пра гэта з сумам узгадвалася днямі ў райбібліятэцы, дзе прайшла прэзентацыя новай кнігі "Рымкі: вёска на краі вечнасці". Яе напісалі два аўтары, настаўнікі-краязнаўцы Мікалай Арэх з Гуты і пастаўчанін Ігар Пракаповіч. Гэты аддалены ад горада за 62 км населены пункт калісьці належыў роду Тызенгаўзаў, там у 1887 годзе пабудавалі мураваную царкву. За польскім часам перад вайной мястэчка перажывала найбольш росквіт, бо на сваёй зямлі працавалі 84 двары, а жыло 317 жыхароў. Зараз у прыгожай мясцовасці не засталося ніводнай жывой душы, людзі толькі час ад часу прыязджаюць памаліцца ў аднойлены храм. А вось аўтары кнігі змаглі сабраць успаміны былых жыхароў, адшукаць у Глыбоцкім занальным архіве цікавыя дадзеныя з гісторыі паселішча. Такую працу, як падкрэслівалася на прэзентацыі кнігі, трэба весці паўсюдна, пакуль яшчэ жывуць сведкі шматлікіх падзей бурнага мінулага стагоддзя. Любы народ мае будучыню толькі тады, калі дасканала ведае пра сваю мінуўшчыну і памятае свае карані.

### Надвор'е ў Глыбокім

www. rp5ru

| | Чацвер 15.01.15 | | | | Пятніца 16.01.15 | | | | Субота 17.01.15 | | | | Нядзеля 18.01.15 | | | | Пан.19.01. | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература | 0 | -2 | 0 | -2 | -2 | -2 | +1 | -1 | -1 | -1 | +2 | +1 | -1 | -2 | 0 | -2 | -2 | -2 | -1 |
| Ціск | 742 | 745 | 748 | 749 | 749 | 747 | 746 | 746 | 745 | 744 | 744 | 747 | 749 | 749 | 748 | 745 | 742 | 742 | 745 |
| Вільготнасць | 79 | 89 | 84 | 87 | 87 | 84 | 82 | 86 | 88 | 92 | 93 | 93 | 91 | 94 | 92 | 95 | 93 | 96 | 89 |
| Вецер м/сек | 7 З | 5 Ю-З | 4 Ю-З | 3 Ю | 6 Ю | 9 Ю | 10 Ю | 7 Ю | 7 Ю | 7 Ю | 6 Ю-З | 4 Ю-З | 4 Ю-З | 1 Ю-З | 3 Ю-В | 2 В | 4 С-В | 4 С | 1 С-В |

# Аб самым надзённым

## У БЕЛАРУСІ САЦЫЁЛАГІ ЗАФІКСАВАЛІ ЭКАНАМІЧНЫ ПЕСІМІЗМ СЯРОД НАСЕЛЬНІЦТВА І СПАД ПРАРАСІЙСКІХ НАСТРОЯЎ



■ Аляксандр Цішкевіч.

**Галоўная газета краіны "СБ. Беларусь сегодня" з'едліва параіла жыхарам умоўных Мухавічаў, тым хто вызначае жыццё ў замежных валютах, хоча добра харчавацца і жыць прыпяваючы, што за "красивую жизнь придётся доплачивать".**

Ужо толькі сляпы беларус не можа не бачыць, як у другой палове года летась у нас абвастрыліся фінансава-эканамічныя праблемы. Падстаў для радасці ў мінулым годзе для большасці суайчыннікаў было няшмат, бо раслі цэны, а напрыканцы снежня на фоне вайны ва Украіне, развязанай нашым усходнім суседам, і ў Беларусі абвалілася нацвалюта. У свядомасці людзей драматычныя падзеі ў Данбасе пакрыху пачалі адступаць на другі план, калі ў кашальку ўсё менее грошай, а жыццёвых цяжкасцей толькі прыбаўляецца. Як ні круці, а ад праслаўлянай айчыннай стабільнасці мала што засталося, паколькі няпростая сітуацыя з-за прасеўшага расійскага рынку назіраецца ў буйнейшых вытворцаў, таксама і на прадпрыемствах у глыбінцы.

Учора сытая і багатая Расія імкліва ідзе на дно, а ўслед за сабой цягне ў вір праблем і сваіх двух саюзнікаў па Еўразійскім эканамічным саюзе, да якіх дабавілася Арменія. Армяне, дарэчы, новы год пачалі з чарговага абвастрэння адносін з Азербайджанам, там на граніцы зноў назіралася страляніна з цяжкай зброі, што адзін з крокаў да развязвання братазабойчай вайны. Да сур'ёзных ваенных дзенняў там, верагодней усяго, справы не дойдуць, але ўсё роўна трывожна. А вось нашы суседзі літоўцы з 1 студзеня перайшлі на еўра з другой спробы і спадзяюцца яшчэ болей замацавацца на адзіным заходнім рынку.

У Літве, дарэчы, цяпер мінімальная зарплата стала 300 еўра, а ў нас мінімалка падрасла з новага года да 2,1 млн. рублёў ( у Беларусі будзе 145 еўра без уліку 20-працэнтнага падатку пры яго пакупцы, які паменшылі потым яшчэ на 10 %). Далёка ехаць не трэба, дастаткова апынуцца ў Вільнюсе, каб пераканацца, што і спажывецкія цэны ў літоўцаў ніжэйшыя, чым у нас, на большасць тавараў і прадуктаў харчавання. З іншага боку пры галапіруючай, у адрозненне ад Літвы, інфляцыі (адной з умоў яе прыняцця ў еўразону быў рост цэн за год не вышэй 1,5 %) у Беларусі яшчэ ў 2013 годзе сярэдні курс наяўнага долара да рубля РБ вырас на 10,88 %. Летась такі паказчык ужо зашкальваў і спыніўся ў канцы снежня на адзнацы 47 %.

Як вынік, нават рэйтынг кіраўніка дзяржавы ў канцы года папоўз уніз да 40 %, на што адрэагавала Беларускае тэлебачанне. А вось БТ-1 заявіла, што А. Лукашэнку ў 2 разы часцей сталі называць у Інтэрнэце і ён увайшоў у дзясятку самых узгадваемых персон расійскімі СМІ. Абноўлены беларускі ўрад, канешне ж, пастараецца любымі спосабамі ўтрымаць хоць бы да прэзідэнцкіх выбараў курс "зялёненькага" на адзнацы 14,5 – 15 тысяч рублёў. Псіхалагічна з цягам часу (такое ўжо ў людзей мысленне) з падзеннем узроўню жыцця прыйдзецца змірыцца, а перад рашаючым галасаваннем улады, што не выключана, знойдуць магчымасць крыху падняць заробкі і пенсіі даверліваму электарату.

За два дзясяткі гадоў якіх толькі ўзрушэнняў мы не перажывалі, аднак ледзь ці не палова суайчыннікаў упарта верыць, што наша краіна застаецца астраўком спакою і міру у бушуючым свеце. Галоўная газета краіны "СБ. Беларусь сегодня" з'едліва параіла жыхарам умоўных Мухавічаў, тым хто вызначае жыццё ў замежных валютах, хоча добра харчавацца і жыць прыпяваючы, што за "красивую жизнь придётся доплачивать". А тым часам і прарасійскія сімпатыі, зноў жа па апытаннях у снежні вучоных-сацыёлагаў, сярод беларусаў зменшыліся. Так, згодна дадзеных НІСЭПІ, зараз 58,7 % беларусаў станоўча ацэньваюць палітыку А. Лукашэнкі ў адносінах да крызісу ва Украіне, якая не супадае з курсам Крамля.

Тым часам 2015 год пачаўся з новага зніжэння цэн на нафту і адразу на Маскоўскай біржы расійскі рубль прадоўжыў сваё зніжэнне да долара і еўра. Далейшы сцэнарый існавання расійскай эканомікі можа быць плачэўны, а гэта азначае, што і для Беларусі наступіўшы год будзе складаным, пра што публічна гаварыць першыя асобы краіны. Каб на месцах ва ўпраўленцаў не апускаліся рукі, з 1 студзеня пачаў дзейнічаць дэкрэт № 5 і ўзмацніліся патрабаванні да кіруючых кадраў. Стала больш кантралявацца і інтэрнэт-прастора, на дзяржаўным узроўні ўзмацнілі барацьбу з наркотыкамі. У падвешаным стане перад навагоднімі святамі і ў пачатку студзеня знаходзіліся многія вытворцы, гандаль, сярэдні і дробны бізнэс у чаканні стабілізацыі на валютным рынку.

Як вядома, на гэты год кіраўніцтва Беларусі разлічвала ўтрымаць курс рубля да долара на ўзроўні 12 тысяч, а таксама вытрымаць гадавую інфляцыю ў межах 12 %. Цяпер, як паказвае развіццё падзей, варта рыхтавацца да горшага сцэнарыя. І цэны ўслед за Расіяй у нас прадоўжаць расці, і заробкі зменшацца, а вось імпартных тавараў стане меней, міжволі пакупнікам прыйдзецца купляць сваё беларускае. Акрамя гэтага наша краіна, не забывайцеся, павінна заплаціць па ранейшых замежных пазыках крэдыторам больш 4 млрд. долараў. Тут, калі не дапаможа зноў Крэмль, беларускай эканоміцы будзе няпроста выкашаць сёлета з-за зніжэння попыту на нашы тавары на асноўным расійскім рынку, адсюль вынікае настрой большасці беларусаў на старце 2015 года.

## Дзень за днём

**Беларусь істотна знізіла экспартныя пошліны на нафту і нафтапрадукты. Пуцін дазволіў беларусам знаходзіцца ў Расіі без рэгістрацыі 90 дзён. За апошнія 15 гадоў афіцыйны курс долара да беларускага рубля вырас у 37 разоў. Больш паловы (55 %) айчынных дзяржаўных прадпрыемстваў сталі стратнымі, па прадукцыйнасці працы Беларусь стала адставаць ад ЕС ужо ў 4 разы. А. Лукашэнка заявіў пра намеры Беларусі нармалізаваць адносіны з Захадам. Урад павысіў цэны на электрычнасць і на большасць відаў цыгарэт. Сярэднія школы з 2015 года пяройдуць на профільную адукацыю.**

# Важнейшыя навіны свету

**Бельгія.** Штаб-кватэра НАТО пацвердзіла, што статуты дагавор блоку дазваляе прыняць Украіну ў члены альянса з баявымі дзеяннямі на тэрыторыі Данбаса і праблемамі Крыма.

**ЗША.** Прэзідэнт Барак Абама зноў заявіў, што глава Расіі У. Пуцін дапусціў буйную стратэгічную памылку, калі рашыўся незаконна анексіраваць Крымскі паўвостраў.

**КНДР.** Урад краіны падтрымаў "справядлівую пазіцыю Расіі па адстойванні ёй сваіх нацыянальных інтарэсаў" і анексію Крыма, пажадаў выстаяць у змаганні з Захадам.

**Англія.** Галоўны эканаміст па краінах СНД банка ING Д. Палявы заявіў, што Расію чакае рэцэсія, эканамічная сітуацыя яшчэ больш пагоршыцца пры цяперашніх цэнах на нафту.

**ЗША.** Толькі ў лістападзе ў краіне дабавілася яшчэ 320 тысяч новых працоўных месц, эканоміка на яўным уздыме, ужо 10 млн. амерыканцаў атрымалі медыцынскія страхоўкі.

**Літва.** Пасля ўступлення сёлета ў еўразону, як запэўніў міністр фінансаў Рымантас Шаджюс, адзін з самых высокіх у ЕС тэмп росту ВУП краіны яшчэ болей павялічыцца.

**Расія.** Праваабаронцы і вядучыя юрысты назвалі гучную справу братоў Навальных поўнасцю палітычна матываванай Крамлём, бо яна кажа праўду пра жулікаў улады.

**Куба.** Пасля аднаўлення дыпламатычных адносін з ЗША Рауль Кастра адразу выпусціў на свабоду 53 кубінскіх палітзняволеных, чакаецца рост узаемнага гандлю і турызму.

**Расія.** Шэраг супрацоўнікаў МУС Чачні адмовіліся падпісаць незаконны рапарт аб вернасці Вярхоўнаму галоўнакамандуючаму У. Пуціну і главе рэгіёна Р. Кадыраву.

**Украіна.** У горшых традыцыях бандыцкіх разборак 90-х гадоў пад Луганскам самі ж сепаратысты забілі з засады аднаго з палявых камандзіраў "Бэтмена" (А. Бяднова).

**Аўстрыя.** На поўначы краіны адшукалі сетку сакрэтных падземных тунеляў, якія нацысты выкарыстоўвалі для стварэння атамнай бомбы, пры ўзвядзенні забілі 300 тысяч палонных.

**Кітай.** Падчас навагодніх гулянняў у Шанхаі сувенірныя долары справакавалі страшную даўку, у якой 36 чалавек загінулі і каля 50 атрымалі цяжкія раненні і траўмы.

**Ватыкан.** Папа Рымскі Францыск у другі раз прызначыў яшчэ 20 новых кардыналаў, з якіх 15 маладзей 80 гадоў, яны ўвайшлі ў склад канклава для выбараў главы касцёла.

**Карэя.** Кампанія LG распрацавала навейшы інавацыйны халадзільнік з функцыяй падвойных дзвярэй у незалежных адсеках і з павышанай ёмкасцю для прадуктаў 962 л.

**Расія.** З-за фінансавых праблем спонсараў наблізіліся да банкруцтва адразу 3 хакейныя клубы КХЛ "Атлант" (Маскоўская вобл.), "Слован" (Браціслава) і "Дынама" (Рыга).

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Мінск.** Сёлета рост цэн, як папярэдзіла эканаміст даследчага цэнтра BEROC Кацярына Барнукова, складзе 20-30 %, чакаецца рост беспрацоўя, будзе назірацца таксама і дэфіцыт імпартных тавараў.

**Магілёў.** Са смуткам жыхары рэгіёна даведаліся аб смерці на 77-м годзе жыцця земляка, былога 1-га сакратара абкама КПБ, міністра сельскай гаспадаркі, палітвязня В. Лявонава.

**Ветка.** Упершыню суд раёна сурова пакараў за гандаль спайсамі праз Інтэрнэт 8,5 гадамі турмы былога 18-гадовага навучэнца ліцэя рачнога флоту, які вучыўся ў Гомелі.

**Жыткавічы.** Вадзіцель фуры з Мінскай вобласці на трасе на Давід-Гарадок на павароце не прапусціў украінскі мікрааўтобус, загінулі 3 чалавекі, яшчэ 10 былі паранены.

**Мінск.** Новы глава Адміністрацыі прэзідэнта А. Косінец заявіў, што патрэбна правесці аптымізацыю дзяржапарату, каб не было людзей, якія нічога не робяць у кабінетах.

**Гомель.** Эканамічны суд прызнаў 7-павярховы жылы дом у цэнтры горада інтэрнатам, пражываючыя там выкладчыкі дзяржуніверсітэта не змогуць прыватызаваць кватэры.

**Смалявічы.** У транзітнай зале Нацыянальнага аэрапорта "Мінск" адкрылі для пасажыраў міжнародных рэйсаў 10 спальных кабін, летась яго пасажырапаток вырас да 2,6 мільёна.

**Масты.** Вечарам ля вёскі Стругі 25-гадовы вадзіцель на падпітку без правоў зляцеў у кювет і разбіўся на ўгнаным ім аўтамабілі "Пежо-307" ад калгаснага клуба.

**Дзяржынск.** Глава раёна М. Арцюшкевіч пацвердзіў, што ў райцэнтры акрамя дзіцячага сада пабудуюць аквапарк і сучасны ФАК, праект якога ўжо гатовы.

**Барысаў.** Міліцыя адшукала беспрацоўнага, раней судзімага гараджаніна, які патэлефанаваў аб "замініраванні" паліклінікі, ніякай выбухоўкі сапёры не знайшлі там.

**Вілейка.** Вечарам супрацоўнікі райаддзела МНС выратавалі групу з пяці рыбакоў мінчан, калі пачаў трэскацца тонкі лёд на мясцовым водасховішчы ля вёскі Рабунь.

**Астрашыцкі гарадок.** Тэлеканал "Беларусь-1" паказаў, як 10-гадовы Коля Лукашэнка выступіў у доме-інтэрнаце для прэстарэлых і інвалідаў іх фартэпіяна.

**Мінск.** У бліжэйшыя 3, а магчыма і 5 гадоў, як заявіў вядомы журналіст С. Новікаў, у сталіцы не прыступяць да будаўніцтва новага нацыянальнага футбольнага стадыёна.

**Стаўбцы.** У вёсцы Сцяцкі арыштавалі 25-гадовага мярзотніка, які напіўся, пасварыўся з маці, abліў бензінам і падпаліў 47-гадовую жанчыну, яе з апёкамі даставілі ў бальніцу.

**Барысаў.** Адзін з лепшых футбалістаў краіны і ФК БАТЭ Яўген Філіпенка падпісаў кантракт на 2,5 гады і стаў іграком каманды топ узроўню, іспанскай "Малагі".

## ДАІ ўзняла кошты за прыём экзаменаў на правы: за тэорыю - у 6 разоў, за практыку - у 10




■ AUTO.TUT.BY

**Новыя цэны на паслугі ДАІ сталі дзейнічаць з 8 студзеня. Новыя расцэнкі сталі сюрпрызам для курсантаў, якія прыехалі на экзамен раніцай 8 студзеня - аб змене коштаў на паслугі ніхто не папярэджваў. Рэдакцыя AUTO.TUT.BY атрымала дзясяткі званкоў і лістоў з просьбай растлумачыць сітуацыю.**

З гэтага часу на сайт тээрэтычнага іспыту будзе каштаваць 0,3 БВ або 54 тыс. Рублёў (раней - 0,05 БВ), практычнага - 1 БВ або 180 тыс. Рублёў (раней - 0,1 БВ).

Кошт кампутарных паслуг і афармлення заявы на падачу дакументаў, а таксама самога пасведчання кіроўцы засталіся ранейшымі - 0,12 і 2 БВ адпаведна.

На сайце ДАІ Мінска расцэнкі на экзаменацыйную дзейнасць ужо зменена на новыя.

Нагадаем, ДАІ даўно была незадаволеная нізкім узроўнем падрыхтоўкі курсантаў. Раней усталяваныя нізкія цэны дазвалялі будучым кіроўцам бязбольна для іх кашалькоў пераздаваць іспыты дзясяткі разоў: у экзаменацыйных аддзелах збіраліся вялізныя чэргі. Магчыма, рашэнне сур'ёзна павялічыць кошт паслуг з'яўляецца мерай фінансавага ўздзеяння на непадрыхтаваных курсантаў - пераздаваць «на авось» зараз стане накладна.

Нам пакуль не ўдалося атрымаць афіцыйны каментар ад ДАІ.

## У Віцебскай вобласці павышаны тарыфы на паслугі ЖКГ, рост склаў ад 21 да 136 працэнтаў

■ Сяржук Серабро

**У Віцебску і Віцебскай вобласці ўстаноўлены новыя тарыфы на жыллёва-камунальныя паслуг, якіяі прадстаўляюцца насельніцтву і субсідуюцца дзяржавай.**

У Віцебскай вобласці павышаны тарыфы на паслугі ЖКГ, рост склаў ад 21 да 150 працэнтаў

Згодна з рашэннем Віцебскага аблвыканкама ад 20 снежня 2014 тэхнічнае абслугоўванне жылога дома падаражэе на 33% і будзе каштаваць 947,1рублей за квадратны метр жылой плошчы; кошт водазабеспячэнне ўстаноўлена ў памеры 1435,8 рублёў за кубаметр, яна вырасла менш за ўсё - на 21%; каналізацыя даражэе амаль на 25% - 958,6 рублёў за кубаметр; а вось аплата за карыстанне ліфтам вырасла наогул больш чым у два разы - новы тарыф роўны 6579 рублям з кожнага зарэгістраванага жыхара ў месяц.

Як паведамлялі «ННВ», папярэдняе падаражанне тарыфаў на жыллёва-камунальныя паслугі ў Віцебску адбылося 1 снежня 2014, тады рост у сярэднім склаў 6%.

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Віцебск.** Ужо 43 гаспадаркі вобласці дапусцілі летась затрымкі разлікаў з калгаснікамі па зарплаце, у снежні такія даўгі перавысілі 13 мільярдаў рублёў, заробкі ў АПК і так нізкія.

**Бешанковічы.** На месцы былога закінутага цэха жалезабетонных канструкцый кампанія "Нацвіта" пачала ўзвядзенне прадпрыемства па выпуску медпрэпаратаў.

**Глыбокае.** Вялікай групе работнікаў з розных галін гаспадаркі, якія вызначыліся ў 2014 годзе, уручылі ўзнагароды глава раёна А. Морхат і старшыня райсавета Г. Унуковіч.

**Орша.** У непрацуючага валютчыка міліцыя канфіскавала 23 тысячы рублёў РФ, 1800долараў для перапрадаж, па вобласці падчас аперастыўных мерапрыемстваў забралі валюты на 1 млрд.

**Лёзна.** Больш 100 тон яблыкаў і пекінскай капусты транзітам у Казахстан з беларускімі сертыфікатамі якасці вярнула Расія ў Беларусь на граніцы са Смаленскай вобласцю.

**Докшыцы.** Аднагалосна раён прынялі 32-м членам Еўрарэгіёна "Азёрны край" на чарговым пасяджэнні гэтай міжнароднай арганізацыі ў Ліванах (Латвія).

**Паставы.** З прымяненнем зброі пагранічнікі затрымалі вечарам за Лынтупамі 5 чалавек і перакрылі кантрабандны канал нелегальнай пераправы цыгарэт у суседнюю Літву.

**Віцебск.** На выездзе з горада на 12 км аўтадарогі на Полацк адкрылі сучасную АЗС сеткі "Газпрамнафта" з магазінам спадарожных тавараў і прыдарожным кафэ для кіроўцаў.

**Расоны.** Пасля 5 гадоў працы ў райцэнтры здалі ў эксплуатацыю 1-ю чаргу новых ачышчальных збудаванняў коштам каля 10 млрд. рублёў з напорным калектарам.

**Віцебск.** Следчыя завяршылі расследаванне справы па факце забойства летам з асаблівай жорсткасцю 62-гадовай жанчыны, якую задушыў у лесе п'яны 22-гадовы мярзотнік.

**Браслаў.** Пераможцам нацыянальнага конкурсу "Лепшая аграсядзіба Беларусі" ў намінацыі "Лепшы старт" стала сядзіба ў нацыянальным стылі "У Барысавіча".

**Орша.** На сцэне гарадскога Палаца культуры прынялі прысягу на вернасць прафесіі 67 маладых спецыялістаў урачоў, фельчараў, медсёстраў, якіх накіравалі ў рэгіён.

**Віцебск.** На 60-м годзе жыцця памёр генеральны дырэктар хакейнага клуба "Віцебск" Уладзімір Базека, які быў адным з лепшых спартыўных функцыянераў вобласці.

**Журжава.** У мясцовым мікраёне абласнога цэнтра на базе былога клуба авіяпалка ўрачыста адкрылі пасля рэканструкцыі Цэнтр алімпійскага рэзерву па адзінаборствах.

**Віцебск.** З 20-га студзеня пад кіраўніцтвам галоўнага трэнера С. Вехцева ФК "Віцебск" пачне падрыхтоўку да новага сезона ў вышэйшай лізе, задача клуба заняць 8-е месца.

*Служба інфармацыі "ВГ".*

# Глыбачане набылі для музея рэдкую паштоўку




**На паштоўцы мы бачым забудову Глыбокага, якая адлюстроўваецца ў воднай паверхні Капаніцаў – сажалак, у якіх манахі-кармеліты гадавалі рыбу. Месца, дзе былі сажалкі і большасць драўляных дамоў, займае кансервавы завод. Між забудовы вылучаецца дах сінагогі (у цэнтры здымка), знішчанай у ІІ Сусветную вайну, на месцы якой цяпер Алея помнікаў. Да нашых дзён захаваўся барочны касцёл Святой Тройцы, які набыў сучасны выгляд пасля перабудовы ў 1902-08 гадах.**

**Калекцыянер з Мінска выставіў на продаж каляровую паштоўку з выявай Глыбокага, выдадзеную перад І Сусветнай вайной. Глыбачане сабралі грошы і набылі паштоўку, каб падараваць яе гісторыка-этнаграфічнаму музею.**

■ **Кастусь Шыталь**

## Каляровае Глыбокае

Глыбокае пачатку XX стагоддзя было досыць развітым паселішчам з насельніцтвам каля 7 тысячаў чалавек. Тут ладзіліся кірмашы і сельскагаспадарчыя выставы, дзейнічалі народная вучэльня, пошта і тэлеграф, хадзілі па вузкакалейцы цягнікі да Нова-Свянцянаў.

Не павінна нікога здзіўляць, што ў Глыбокім сто год таму была кнігарня. Яе трымаў гандляр Л. Ром. Гартаючы "Нашу Ніву" – першую газету на беларускай мове, якая выходзіла ў Вільні – за 1913 год, знаходзім абвестку, што ў кнігарні Рома ў Глыбокім прадаюцца беларускія кнігі і календары.

Л. Ром прадаваў у сваёй краме і паштоўкі. Перад І Сусветнай вайной ён надрукаваў серыю каляровых паштовак з выявай Глыбокага. Тэхналогіі каляровай фатаграфіі яшчэ не былі распаўсюджаныя. Таму рабіўся чорна-белы здымак, размалёўваўся і пасля паштоўка друкавалася.

Тры паштоўкі з каляровай глыбоцкай серыі даўно вядомыя краязнаўцам. Выявы паштовак "Вуліца Докшыцкая", "Базарная плошча", "Беразвецкі манастыр" друкаваліся ў кнігах Уладзіміра Скрабатуна "Глыбокае на старых паштоўках" (Мінск, 1998), Вячкі Целеша "Гарады Беларусі на старых паштоўках" (Мінск, 1998), "Глыбокае: повязь часоў" (Мінск, 2012).

## Нечаканая знаходка

Ці думаў хто ў Глыбокім, што існуюць іншыя каляровыя паштоўкі выдавецтва Л. Рома? Неяк, прачнуўшыся ўночы, я вырашыў ні з таго ні з сяго зазірнуць на папулярны беларускі інтэрнэт-аўкцыён ay.by. Гартаю старонкі са старымі паштоўкамі.

Раптам бачу паштоўку з выявай Глыбокага. Каляровая. Мястэчковая забудова і касцёл Святой Тройцы – усё гэта адлюстроўваецца ў роўнай, як люстэрка, паверхні Капаніцаў.

На паштоўцы надрукаваны надпіс "Церковная площадь", ніжэй ад рукі дапісана "Местечко "Глубокое"".

На сайце быў апублікаваны і скан адваротнага боку паштоўкі. Яна была адасланая з Глыбокага ў Мінск 2 кастрычніка 1915 года. Незадоўга да таго немцы прарвалі фронт у раёне Свянцянаў і на два тыдні акупавалі Глыбокае, потым расійскія войскі адкінулі іх за Паставы.

Прадавец выставіў стартавы кошт 85 даляраў. Завялікая сума, каб проста дастаць з кішэні і набыць. Аднак нельга было дазволіць, каб паштоўка згінула ў нетрах чыёй-небудзь калекцыі. Трэба вярнуць яе ў Глыбокае.

## З Глыбокага па нітцы

У Беларусі ёсць досвед вяртання гістарычных каштоўнасцяў праз набыццё іх ускладчыну. Гэткім чынам у 2012 годзе быў набыты арыгінальны асобнік Статута Вялікага Княства Літоўскага 1588 года, за які прадавец узяў 45.000 даляраў. Грошы ахвяравалі банкі, бізнэсоўцы і простыя грамадзяне.

Я напісаў Юрыю Калбасічу – настаўніку і экскурсаводу, які апошнія гады актыўна займаецца вывучэннем глыбоцкай мінуўшчыны. Той пагадзіўся пачаць збор грошай. Спадар Юры апублікаваў на глыбоцкіх суполках у сацыяльнай сетцы ВКонтакте абвестку з заклікам ахвяраваць на набыццё паштоўкі. Многія простыя глыбачане, студэнты і працоўная моладзь, адгукнуліся на заклік, праўда, некаторыя не стрымалі абяцання.

Рэшту сумы пакрыў Павел Блышко, піцерскі бізнэсовец глыбоцкага паходжання. Ягонае ахвяраванне было вялікае – грошы, якія засталіся, пойдуць на іншую карысную для рэгіёна справу.

Прадмет на аўкцыёне можа прадацца па кошце, які значна вышэй за першапачатковы. Усё непрадказальна, залежыць ад прадаўца і ставак, якія робяць удзельнікі. Мы рыхтаваліся да таго, што кошт паштоўкі можа вырасці. Здарылася адваротнае – прадавец панізіў кошт да 50 даляраў. Пасля двух ставак ад патэнцыйных пакупнікоў 4 студзеня паштоўка была набытая за 52 даляры.

## Карысны прыклад

Тое, што для Глыбокага – каштоўная рэліквія, у Мінску ці Маскве будзе проста адным з сотняў калекцыйных прадметаў. Таму важна, каб прадметы нашай спадчыны заставаліся ў нас. Глыбачане паказалі разуменне гэтага і справай даказалі, што ім неабыякавая гісторыя. Вялікую частку сумы ахвяравала моладзь, і гэта сведчыць, што сярод маладога пакалення ёсць людзі, гатовыя рабіць карысныя справы.

Набытая паштоўка 15 студзеня была падаравана гісторыка-этнаграфічнаму музею і застанецца ў Глыбокім назаўсёды.

Справа вяртання спадчыны нашага рэгіёна будзе мець працяг. Бібліятэкі ў Варапаеве і Падсвіллі хутка атрымаюць у падарунак часопісы 1920-х-30-х гадоў, дзе надрукаваныя артыкулы і фотаздымкі з гэтых мястэчак. Яны былі набытыя на польскім аўкцыёне swistak.pl у прадаўца з Любліна.

А вось металічны знак гродзенскага палка ўланаў, які стаяў у міжваенны час у Паставах і спрычыніўся да развіцця мястэчка, у рэгіён не вернецца. На сайце ay.by прадавец просіць за яго 325 даляраў – сума непад'ёмная.

## Хто ахвяраваў на паштоўку

- ■ **Таццяна Агуліна** *(Глыбокае)*
- ■ **Павел Блышко** *(Санкт-Пецярбург)*
- ■ **Святлана Вартанян-Міхайлоўская** *(Глыбокае)*
- ■ **Дзіяна Гіро з сябрамі** *(Уздела)*
- ■ **Юры Калбасіч** *(Глыбокае)*
- ■ **Юлія Сікора** *(Глыбокае)*
- ■ **Дзіяна Тубіс** *(Капыльшчына)*
- ■ **Кастусь Шыталь** *(Параф'янава)*




# Іншыя паштоўкі выдання Л. Рома




**Докшыцкая вуліца. Цяперашняя вуліца Маскоўская, погляд ад гасцініцы ў бок санстанцыі.**




**Базарная плошча. Цяперашняя Цэнтральная плошча.**




**Беразвецкі манастыр. Царква, помнік віленскага барока, зруйнаваная ў 1940-50-я гады, у кляштарным будынку месцiцца турма.**

# Язэп Квач: Я адчуваю сябе звяном, што звязвае пакаленні



**Жыхар вёскі Жукоўшчына Язэп Квач стварыў уласную музейную экспазіцыю.**

■ **Зміцер Лупач**

Адметнасць яе ў тым, што прадметы ў ёй не абязлічаныя, да кожнай рэчы прымацавана бірка, дзе таксама пазначана імя яе былога гаспадара. І спадар Язэп можа шмат распавесці не толькі пра сам прадмет, але і пра яго гаспадара.

Як кажа Язэп Квач, першапачаткова ідэя стварыць такі своеасаблівы музей узнікла ў яго колькі гадоў таму, калі ён дапамагаў свайму брату перавозіць стары дом для лецішча. Там на гарышчы было шмат старых рэчаў, якія было шкада выкінуць. І ён рашыў іх збіраць.

Памяшканне для калекцыі прадаставіла яго былая гаспадыня, у якой ён жыў на кватэры, калі пасля інстытута прыехаў працаваць у Жукоўшчыну. Гэта звычайны фінскі домік, які быў пабудаваны недзе ў 70-х гадах мінулага стагоддзя. Але яго спадар Квач называе «Беларускай хаткай»: «Не таму, што тут сцены дужа беларускія, а таму, што тут жыве беларускі дух».

І беларускі дух тут сапраўды жыве! Усе рэчы тут сапраўды беларускія, для некаторых нават і не прыдумаеш адразу рускі адпаведнік.

У першым пакоі сабраныя мужчынскія рэчы. Вядома, праца ў нашых продкаў дзялілася на мужчынскую і жаночую. Мужчына ў сям'і выконваў больш цяжкую працу, таму і інструменты тут адпаведныя: сякеры, косы, пілы, цапы, габлькі.

– Вось гэтая сякера называецца склют, – распавядае Язэп, – ім не галовы seklі, не, гэты інструмент патрэбны быў, каб часаць бярвенні. А вось цэп для малацьбы, вось пабачце, нават каласок яшчэ да біца прыліп. Усё ў мяне тут жывое, самае сапраўднае.

У гэтым пакоі асобна на сцяне вісяць бязмены. Канструкцыі самыя розныя. Нават ёсць драўляны бязмен, які не часта можна пабачыць.

Таксама ў гэтым пакоі сабраныя музычныя інструменты. Па словах спадара Язэпа, некалі ў Жукоўшчыне было шмат музыкаў, аж тры ансамблі струнных інструментаў былі. Зараз, на жаль, усё гэта ў мінулым.

Мы праходзім у наступны пакой. Вялікую яго частку займаюць кросны. Кросны дзеючыя.

– Вы пыталіся, які ў мяне самы любімы экспанат. Хіба гэтыя кросны. На іх вось і ткаць можна. Зараз тут бачыце заложаны просты ўзор. Мне іх мясцовыя жанчыны дапамаглі сабраць.

Потым Язэп паказвае нам куфар. Даўней у ім захоўвалі самыя каштоўныя рэчы. Быў у куфры і свой сейф, адмысловая шкатулка для захоўвання грошай.

Тут жа ёсць і старыя падручнікі, па якіх вучыліся ў розныя часы і пры розных уладах. Я пагартаў падручнік для чытання 1954 года. Цікава было пабачыць побач партрэты Леніна і Сталіна.

Спадар Язэп заве нас у наступны пакой. Тут месціцца старадаўні драўляны ложак з сапраўдным сеннікам. Людзі старэйшага веку яшчэ іх памятаюць. Аўтару таксама даводзілася ў дзяцінстве спаць на сенніку. Гэта такі вялікі мяшок, які напіхаўся сенам і выкарыстоўваўся замест матрасаў і цюфякоў. Калі сена ў ім збівалася, яго проста мянялі.

Побач з ложкам падвешана калыска, у якіх даўней калыхалі дзяцей.

– Ёй больш за сто гадў, – апавядае Язэп, – я нават ведаю, хто ў ёй апошні калыхаўся. Бачыце, як яна рукамі адшліфаваная за столькі гадоў.

У гэтым жа пакоі вісіць даўнейшая вопратка, сярод якой Язэп захоўвае і сярмягу свайго дзеда.

– А зараз пройдзем у апошні пакой, жаночы, – запрашае гаспадар.

Ён апошні не таму, што спадар Язэп нейкім чынам хоча дыскрымінаваць жанчын, проста ў ім месціцца печ. А уявіць раней гаспадыню без печы было немагчыма. У гэтым пакоі знаходзіцца рознае начынне для печы: вілкі, качэргі, чапяла. Паказаў нам гаспадар і адмысловае прыстасаванне, якім нашы продкі мяшалі ў катле капусту, не вынімаючы яго з печы.



Тут жа месцяцца розныя дзежкі, гарлачыкі, прасы, маслабойкі. Прычым сярод звычайных маслабоек ёсць адна і адмысловая. Масла ў ёй збівалася кручэннем ручкі, падобным да таго, як мы круцім, дастаючы ваду з калодзежа.

Спадар Язэп паказаў нам шмат розных цікавостак, усяго і не пералічыш. Гэта трэба бачыць.

Я спытаў яго, для чаго ён збірае гэтыя рэчы.

– У мяне шмат хто пра гэта пытае. Можа хто і дзіваком мяне лічыць. Зараз такога дабра можна знайсці амаль на любым гарышчы. Але пройдзе недзе гадоў пятнаццаць – дваццаць, і гэтыя рэчы будуць рэдкасцю. Я я змагу іх не толькі паказаць, але і распавесці пра іх гаспадароў. Я сябе адчуваю адмысловым звяном, якое звязвае мінулыя пакаленні з будучымі, каб перадаць матэрыяльную і духоўную культуру нашых продкаў дзецям і ўнукам.

Што ж, да гэтых слоў цяжка што дадаць. Застаецца толькі пажадаць нашаму земляку Язэпу Квачу, ураджэнцу Глыбоччыны, поспехаў у яго справе.



**Владзімір Ільіч Ленін.**

Владзімір Ільіч Ленін — правадыр рэвалюцыі, заснавальнік і кіраўнік Комуністычнай партыі і Совецкай дзяржавы.

Ленін хацеў, каб усе працоўныя жылі добра і шчасліва.

Ленін хацеў, каб усе дзеці працоўных вучыліся.

Ленін памёр, але жыве яго вялікая справа.

Мы выконваем заветы Леніна.

**Іосіф Вісарыёнавіч Сталін.**

Іосіф Вісарыёнавіч Сталін — вялікі прадаўжальнік справы Леніна.

Сталіна ведае ўвесь свет.

Пад кіраўніцтвам нашай Комуністычнай партыі і Сталіна совецкі народ прышоў да шчаслівага жыцця.

Сталін памёр. Совецкі народ даў абяцанне працаваць яшчэ лепш у імя перамогі комунізма.

# Спаборніцтвы па фігурным ваджэнні прайшлі ў Глыбокім



**Спаборніцтвы сярод аўтааматараў прайшлі ў суботу, 17 студзеня.**

■ **Зміцер Лупач**

Спаборніцтвы ўключалі ў сябе некалькі выпрабаванняў, якія ўдзельнікі праходзілі на час. За парушэнні налічваліся штрафныя секунды. Аўтааматары пачыналі з практыкавання на эстакадзе, потым рабілі разварот на абмежаваным участку дарогі так, каб не закрануць слупкі-абмежавальнікі. Пасля праязджалі габарытны круг, выконвалі дыяганальную паркоўку, затым паркоўку заднім ходам. У выніку лепшы час паказаў Іван Алексін, які выканаў усе заданні за 1.39 с.

Пераможца і прызёры атрымалі ў падарунак аўтамабільныя асвяжальнікі паветра.

– Варта адзначыць, што ў цэлым усе ўдзельнікі справіліся нядрэнна і пераўзышлі мае чаканні як арганізатара спаборніцтваў: уклаліся ўсе ў дзве хвіліны, - сказаў Максім Алексін. - На жаль, нас было няшмат, але ўсім спадабалася. У далейшым думаем арганізоўваць падобныя спаборніцтвы з вялікай колькасцю этапаў і элементаў выканання. Спадзяемся, што ў наступны раз і ўдзельнікаў будзе больш, – адзначыў ён.



Клуб аўтааматараў быў створаны ў Глыбокім у канцы мінулага года з мэтай прапаганды культуры ваджэння і аб'яднання аматараў тэхнікі.

Як кажуць удзельнікі клуба, тут яны могуць выпусціць сваю пару, паказаць як трэба ездзіць і як не трэба. З тым, каб на дарозе быць прыкладнымі вадзіцялямі.



## Віншаванкі

*Уладзіміра Іванавіча Скрабатуна*



**Віншуем з юбілеем!**

Прыміце нашы віншаванні
І пажаданні ўсіх даброт.
Хай явай стануцца жаданні,
Жыццё хай будзе нібы мёд.
Жадаем шчыра ўсміхацца,
Жыць у дастатку, не хварэць,
З-за дробязяў не хвалявацца,
Душой ніколі не старэць!

**Калектыў "ВГ"**

*Уладзіміра Іванавіча Скрабатуна*

**Віншуем з юбілеем!**

День рожденья – прекрасная дата,
Не беда, что уходят года.
Жизнь настолько светла и прекрасна,
Что не стоит грустить никогда.
Желаем здоровья на долгие годы,
Пусть мимо пройдут все печали, невзгоды,
Пусть радостью, счастьем искрятся глаза,
И только от смеха сверкает слеза.

**Родныя**

## Віншую!

***(Да 20-годдзя "Вольнага Глыбокага")***

Час імклівa бяжыць, слова Вольна гучыць
Ў нашым "Вольным Глыбокім" над краем.
Паслядоўнікаў мець, не старэць і сустрэць
Юбілей стогадовы жадаем.
Так трымаць! Доўга жыць!
Прад табой шлях ляжыць
Да сенсацый і вестак цікавых.
Не падводзіць матор – дасягне рэпарцёр
Докшыц, Мёраў, Браслаўя, Паставаў.
Сваю справу любіць, верна праўдзе служыць,
Каб у вочы глядзець людзям смела.
"Лічбавік" – на ўзвод, каб пабачыў народ:
Ёсць і чорных шмат плямаў і белых.
Надышоў юбілей, далучайся хутчэй,
Каб з газетай заўсёды быць разам.
Ёй усяго дваццаць год, дык ідзі з ёй, народ,
Па мінулым і з сённяшнім часам.

Рэдакцыі "Вольнага Глыбокага" начале з Уладзімірам Скрабатуном творчага плёну, новых задумак і праектаў, эксклюзіву і сенсацый!
Здароўя, здароўя, здароўя!
Асабістага шчасця і дабрабыту ў сем'ях!

***Людміла Ардынская,***
*а\г Радзюкі Шаркоўшчынскі раён*



# Зімовая рыбалка

**Як толькі лёд скоўвае вадаёмы, і можна хадзіць па лёдзе, рыбаловы накіроўваюцца на рыбалку, пры гэтым забываючы аб усіх існуючых правілах рыбалоўства і асабістай бяспекі.**

**Аляксей Протас,** *начальнік Глыбоцкай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету.*

Практычна на кожным вадаёме штодня можна сустрэць рыбака з жэрліцамі, які здабывае шчупака, але чамусьці многія рыбаловы забываюць аб захаванні Правіл вядзення рыбалоўнай гаспадаркі і рыбалоўства. Супрацоўнікі міжраённай інспекцыі штодня выяўляюць парушэнні прыродаахоўнага заканадаўства, гэта непадпісаная жэрліца, лоўля з перавышэннем дазволенай колькасці, лоўля на жэрліцы ў начны час, вылаў маламерных шчупакоў, выкід смецця на лёд. Усе гэтыя, здавалася б, дробныя парушэнні прыводзяць да вялікіх штрафаў.

Так, супрацоўнікамі міжраённай інспекцыі на возеры Акунёўскае затрыманы жыхар г. Полацка грамадзянін К., які прыехаў у Глыбоцкі раён у госці да сваякоў і вырашыў, што закон не для яго. Усталяваў вялікую колькасць жэрліц і пакінуў іх на двое сутак без нагляду, без абазначэння іх прыналежнасці. Як толькі на трэція суткі гора-рыбалоў прыйшоў правяраць жэрліцы, інспектары яго затрымалі. Цяпер нашага госця чакае раённы суд. За дадзенае парушэнне закон прадугледжвае адміністрацыйную адказнасць у выглядзе штрафу у памеры ад 20 да 50 базавых велічынь, а злоўлены шчупак абыдзецца парушальніку ў 540 тысячаў рублёў.

Рыбакі з жэрліцамі дапускаюць перавышэння дазволенай колькасці жэрліц, жэрліцы не падпісаныя, ажыццяўляюць лоўлю без неабходных дакументаў на вадаёмах (білет БТПР), вакол месцаў рыбалкі ўтвараюцца цэлыя горы смецця. Часам складваецца ўражанне, што на рыбалку ходзяць для таго, каб выкінуць хатняе смецце. Усё гэта разглядаецца як парушэнне і цягне адміністрацыйную адказнасць, да 20 базавых велічынь. Інспектары ўзмоцняць працу па спыненні выкіду смецця на лёдзе.

Для аматараў пакатацца па вадаёмах на транспартных сродках (квадрацыклы, мапеды, матацыклы, аўтамашыны, трактары) хацелася б нагадаць, што такія асобы будуць прыцягвацца да адміністрацыйнай адказнасці, штрафу ў памеры 20 базавых велічынь. Перасоўваючыся на тэхніцы па лядовым пакрыве возера, Вы не толькі парушаеце прыродаахоўнае заканадаўства, але і падвяргае сваё жыццё і жыццё блізкіх людзей небяспецы. Пасля працяглай адлігі на лёдзе ўтварыліся прамыіны і неабходна выконваць элементарныя правілы паводзін.

Ідучы на лёд, вазьміце з сабою сродкі выратавання, вяроўку з грузам на канцы, дошку, выратавальную камізэльку, бо зараз прамысловасць выпускае даволі кампактныя і лёгкія камізэлькі. Памятаеце аб сваёй асабістай бяспецы.

**Пра ўсе парушэнні прыродаахоўнага заканадаўства Вы можаце паведаміць на тэлефон Глыбоцкай міжрайінспекцыі «гарачая лінія»: 2-86-70, моб. 897-23-02, 890-55-28, 249-45-49, 645-66-78.**



## «Мёртвая душа» 2 гады атрымлівала зарплату ў Глыбоцкім райвыканкаме

**Начальнік аднаго з аддзелаў Глыбоцкага райвыканкама абвінавачваецца ў крадзяжы амаль Br57 млн бюджэтных сродкаў. Аб гэтым карэспандэнту БЕЛТА паведаміў пракурор Глыбоцкага раёна Ігар Валынец.**

Устаноўлена, што фігурант працаўладкаваў у падраздзяленне райвыканкама сваяка, які фактычна свае абавязкі не выконваў. «Мёртвая душа» лічылася работнікам з жніўня 2012 года па верасень 2014 года, заработная плата за гэты перыяд часу ў суме амаль Br57 млн была прысвоена падазраваным.

Крымінальная справа па ч.3 арт. 210 (крадзеж шляхам злоўжывання службовымі паўнамоцтвамі, учынены ў буйным памеры) распачата 12 студзеня бягучага года пракурорам Глыбоцкага раёна па матэрыялах праверкі, якую праводзілі супрацоўнікі АБЭЗ, УУС аблвыканкама і РАУС.

«Падазраваны з'яўляецца не толькі адказным работнікам райвыканкама, але і дэпутатам раённага ўзроўню», – адзначыў Ігар Валынец і дадаў, што крымінальная справа перададзена ў Следчы камітэт Беларусі.

*Алёна Ціханава, БЕЛТА*

## Міністр інфармацыі не думае, што закон аб дармаедстве пагражае фрылансерам

**Міністр інфармацыі Беларусі Лілія Ананіч не лічыць, што так званы закон аб дармаедстве, які павінен быць прыняты найбліжэйшым часам, пагражае журналістам-фрылансерам.**

**Таццяна Каравянкова,** *БелаПАН*

«Я не думаю, што закон аб дармаедстве – гэта пагроза для фрылансераў. Калі пазаштатнік плаціць падаткі, ніякіх праблем не будзе», – сказала Ананіч 19 студзеня падчас анлайн-канферэнцыі на сайце агенцтва БелТА.

«Чалавек у нейкі перыяд жыцця можа быць фрылансерам. Але, я перакананая, прафесія журналіста – гэта дачыненне да пэўнага сродку масавай інфармацыі, – сказала яна. – Камусьці блізкія погляды грамадска-палітычнай прэсы, а хтосьці выдатна адчувае сябе ў сегменце выданняў для вольнага часу. Я не ўяўляю, што ўсё жыццё можна быць фрылансерам. Мне б не хапала карпаратыўнасці, саўдзелу, самога асяроддзя, зносінаў з калегамі, абмену вопытам».

Паводле слоў міністра, рэдакцыі СМІ павінны самі паклапаціцца, каб правы фрылансера быць журналістам абараняліся. «У цэлым да дармаедства я стаўлюся адмоўна, як і любы нармальны чалавек. Кожны чалавек павінен адчуваць сваё дачыненне да краіны і да таго, што ў гэтай краіне адбываецца. Любая краіна мае патрэбу ў моцнай дзяржаўнай ахове праваправядку, у моцнай адукацыі і ахове здароўя, у моцнай нацыянальнай культуры. Прасцей сказаць: «А я буду паводле сваіх законаў». Але кожны жыве ў соцыуме, і трэба лічыцца з гэтым», – лічыць Ананіч.

Варта адзначыць, што грамадская арганізацыя «Беларуская асацыяцыя журналістаў» неаднаразова крытыкавала адсутнасць у нацыянальным заканадаўстве аб СМІ паняцця «фрылансер». Паводле меркавання журналісцкай супольнасці, паняцце «журналіст» тлумачыцца занадта вузка, і гэта абцяжарвае працу фрылансераў і доступ да інфармацыі.

## Савет дырэктараў «Газпрома» разгледзіць пытанне аб ліквідацыі прадстаўніцтва кампаніі ў Мінску

Пра гэта паведамляе РІА Новости.

Прадстаўніцтва ААТ «Газпром» у Беларусі адкрыта ў Мінску ў снежні 1998 года. Мэтай яго працы з'яўлялася абарона і прадстаўленне інтарэсаў «Газпрома» і яго дачынных таварыстваў на тэрыторыі Беларусі. Асноўнымі кірункамі дзейнасці прадстаўніцтва былі садзейнічанне рэалізацыі міжнародных дагавораў Расіі і Беларусі аб супрацоўніцтве ў газавай галіне; павышэнне эфектыўнасці ўзаемадзеяння «Газпрома» з органамі кіравання і прадпрыемствамі Беларусі па пытаннях забеспячэння паставак і транзіту расійскага газу; ажыццяўленне кантролю за ходам будаўніцтва ўчастка газаправода «Ямал — Еўропа» на беларускай тэрыторыі; вывучэнне магчымасцяў для інвестыцыйнай і іншай гаспадарчай дзейнасці «Газпрома» і яго дачынных таварыстваў у Беларусі.

У 2011 годзе «Газпром» стаў уладальнікам 100% акцый ААТ «Белтрансгаз»: першыя 50% акцый беларускай кампаніі расійскі газавы манапаліст выкупіў долямі на працягу 2007—2010 гадоў, а 25 лістапада 2011 года — астатнія 50% акцый. У 2013 годзе «Белтрансгаз» быў перайменаваны ў «Газпром трансгаз Беларусь».

